К. А. Пажытноў.

# ПАПУЛЯРНЫЯ НАРЫСЫ ТЭОРЫІ КААПЭРАЦЫІ

Пад рэдакцыяй К. Езавітава



Рыга, — 1927.
Беларускае Выдавецтва
у Латвіі

К. А. ПАЖЫТНОЎ.

# Папулярныя вочаркі па тэорыі КААПЭРАЦЫІ.

Пад рэдакцыяй К. Езавітава.




РЫГА, 1927.
Выданьне Беларускага Выдавецтва
ў Латвіі.

Жыцьцё кожнае нацыі, кожнага дзяржаўна-самастойнага, а таксама і залежнага ад суседзяў, народу, разьвіваецца ў трох галоўных кірунках: культурна-прасьветным, палітычным і эканамічным.

Першыя працаўнікі нацыянальнага адраджэньня беларускага народу добра зразумелі значаньне першых двух з гэтых кірункаў для беларускага руху і многа ў гэтых кірунках працавалі; за тое, на вялікі жаль, дужа мала зьвярталі яны ўвагі на працу ў кірунку эканамічным,— праца ў галіне эканамічнай часта-густа зусім не вялася.

Некалькі дзясяткаў гадоў ад пачатку нашага адраджэнчага руху былі выключна ахвяраваны культурна-прасьветнай працы: зьбёрам народных твораў, народнаму слоў-

ніку, досьледам гісторыі беларускага народу, апрацоўцы народнае мовы ў ступень мовы літэратурнае і, нарэшце, стварэньню нова-адраджэнчае беларускае літэратуры, абапёртае на народным грунце. Паралельна з усёю гэтаю працаю ішла праца над нацыянальным усьведамленьнем беларускае інтэлігэнцыі і ўсьведамленьнем вясковых мас.

У выніку нацыянальна-культурнае працы зьявіліся дужа багатыя зьбёры беларускае народнае творчасьці, вельмі значныя і паважныя працы аб беларусох у мовах расейскай і польскай і, што самае галоўнае, нарадзілася самастойная беларуская літэратура, вельмі прыгожая, здаровая маральна і арганічна - зьвязаная з народнаю глебаю, ад якой яна чэрпае сваю жыцьцёвую праўду і дужасьць. Сьледам за літэратурай, прыйшоў музыкальна-гарманізаваны народны сьпеў, нацыянальны тэатр, нацыянальная

пачатковая і сярэдняя школа і, нарэшце, заложана нацыянальная вышэйшая школа.

Праца ў культурна-прасьветным кірунку яшчэ ня скончана, ды й ня можа быць ніколі скончанай, бо кожнае новае пакаленьне, нават кожны стары працаўнік, вучоны, пісьменьнік і мастак, у кожны новы год, або перыяд сваей працы, дае новы ўклад у скарбніцу беларускае культуры, пашырае навуковы досьлед, абагачае літэратуру, ажыўляе тэатр і музыку. Праца тутака ня скончана, але можамо ўжо сказаць, што яна **наладжана**, пастаўлена на моцны грунт і будзе разьвівацца далей,—**бліскучы развой нацыянальна - культурных беларускіх здабыткаў ужо забяспечаны.**

**Палітычная** праца ў беларусаў пачалася куды пазьней за культурна-прасьветную. Толькі каля 1900 году бачымо мы першую беларускую палітычную партыю—„Сацыя-

лістычную Грамаду“. Аднак, дзьве расейскія рэвалюцыі, выклікаными дзьвюмя няўдалымі войнамі і няўдалым урадаваньнем Мікалая II, разштурхалі беларускія народныя масы; агульны-жа ўзрост нацыянальных рухаў ўва ўсім сьвеце і прыклады бліжэйшых суседзяў — аканчальна абудзілі беларускі народ і выклікалі ў ім магутны водгук. Беларускі палітычны рух пайшоў з нечаканай быстрынёй і, праз якіх два дзясяткі гадоў палітычнае працы, здолеў набраць ужо гэтулькі моцнасьці, што не пажадаў абмяжовываць сябе куцымі адзнакамі народнае вольнасьці, ні ў форме скромненькае нацыянальна-культурнае аўтаноміі, ні ў форме больш шырокае аўтаноміі нацыянальна - тэрыторыяльнае, а проста і адважна падыйшоў да ідэі поўнае нацыянальнае незалежнасьці.

Тутака няма мейсца дзеля падрабязнага разгляду таго шляху,

якім прыйшоў Беларускі Народ да сваёй дзяржаўнасьці. Даволі будзе канстатаваць, што **сваю дзяржаўнасьць ён ужо мае.** Тое, што яшчэ ня ўсе беларускія абшары аб'еднаны каля аднаго палітычнага цэнтру, **ёсьць** толькі **пытаньне часу.**

Зусім ня так стаіць праца ў трэцім кірунку беларускага нацыянальнага жыцьця, у **кірунку эканамічным.** Тутака зроблена вельмі мала, блізка-што зусім нічога ня зроблена. Беларускіх сельска - гаспадарскіх таварystваў да ўсясьветнай вайны 1914-18 году ня было, а калі і былі нейкія сельска-гаспадарскія таварыствы „на Беларусі“, дык яны знайходзіліся або ў расейскіх, або, і гэта найчасьцей, у польскіх рукох, і прыслугоўвалі інтарэсам вялікага абшарніцтва, якое ставілася варожа і да беларускага сялянскага народу і да беларускага нацыянальнага руху. Беларускіх прыватных гандляроў, з

больш-менш значным капіталам і абаротам, а таксама і вялікіх каапэратыўных прадпрыемстваў — не было. Дзясятак-другі дробных гандлярчыкаў, ці некалькі каапэратыўчыкаў—у рахубу ісьці ня могуць. Прыватны гандаль на Беларусі найбольш знаходзіўся ў руках жыдоўскае буржуазіі, а справа каапэратыўная — у руках палякаў. Вытворчая прамысловасьць на Беларусі была невялікая, куцая і зноў-жа — цалком знайходзілася ў чужых руках. Капітал, ускормлены на беларускай глебе і накалупаны мазалём беларускага сялянiна і рабочага, выплываў з Беларусі ў суседнія старонкі і дзьвігаў прамысловасьць Лодзі, Варшавы і іншых чужых гарадоў, прыбіраючы вуліцы гэтых гарадоў новымі прыгожымі будынкамі, напаўняючы іх гулам аўтамабільных ражкоў.

Усё, сказанае аб эканамічным беку жыцьця беларусаў у Бела-

русі, таксама можна сказаць і аб эканамічным жыцьцю і становішчу нашае меншасьці ў Латвіі. Трэба будзе толькі дадаць, што і ў Радавай Беларусі і ў Заходняй Беларусі, акупаванай палякамі, беларусы ўжо ўзяліся за эканамічную працу і пасьпелі дзе-што зрабіць, а наша меншасьць у Латвіі яшчэ нічога не зрабіла для свайго згуртаваньня на эканамічным грунце.

Сюды, у гэты бок нацыянальнага жыцьця, павінны цяперака накіравацца ўсе здольныя сілы беларускае інтэллігэнцыі і шырокіх колаў народу. Сюды павінна скіравацца адраджэнчая думка і праца, каб запоўніць тую дзіру ў нашым нацыянальным руху, якая ўжо здаўна сіроцкі сьвеціць, мазоліць вочы і студзіць наш народ эканамічнай галітою. **Трэба выклікаць нацыянальны рух і ў кірунку эканамічным.** Гэта і ёсьць наша бліжэйшая нацыянальная задача.

Наша беларускае настаўніцтва, якое ў Латвіі зьяўляецца кіраўніком нацыянальнага жыцьця беларускае меншасьці, павінна зьвярнуць увагу на эканамічнае пытаньне і аддаць частку сваіх сіл, здольнасьцяў і часу на працу ў галіне каапэратыўнай.

Трэба ўзяцца за стварэньне беларускіх спажывецкіх каапэратываў. Трэба закладаць сяброўствы па вырабу масла, па прадажы яек і млека. Трэба гуртавацца ў аб'еднаньні, якія маглі-б супольнымі сродкамі ўскладчыну купляць лепшыя сельска-гаспадарчыя прылады і машыны. Трэба, нарэшце, браць у свае рукі ўжо істнуючыя ў некаторых беларускіх валасьцёх крэдытныя таварыствы, а дзе іх няма — закладаць новыя. Зразумела, цяжка нашаму настаўніцтву адрывацца ад штодзённай школьнай працы, але, пры добрым жаданьні, — нічога немагчымага няма, і настаўніцтва наша зможа дапамагчы

сялянству ў вёсцы і працоўным у горадзе наладзіць свае каапэратыўныя арганізацыі.

Каб даць актыву беларускай працоўнай інтэлігэнцыі матарыял для асабістага знаёмства і разважаньняў, а таксама і для гутарак і лекцый сярод беларускага сялянства і працоўных, друкуем мы пераклад „Папулярных вочаркаў па тэорыі каапэрацыі“—Пажытнова. Гэты „вочаркі“ зьяўляюцца першаю спробаю даць падручнік па каапэрацыі для ўсіх пачынаючых каапэратараў. Маемо надзею, што беларускае настаўніцтва, працоўныя, і граматнае сялянства з посьпехам выкарыстаюць „вочаркі“ для сваёй практычнай штодзённай працы.

**К. Езавітаў.**

6 сакавіка 1927 году.
Рыга.

# Папулярныя вочаркі
## па тэорыі
# КААПЭРАЦЫІ.

# *ПРАМОВА АУТАРА.*

Усім вядома, што каапэратыўны рух за апошнія часы зрабіў аграмадныя посьпехі немаль ва ўсіх краёх Старога і Новага Сьвету. Вайна, ахапіўшая пажарам усю цывілізаваную Эўропу і перавярнуўшая дагары нагамі варункі эканамічнага і грамадзкага жыцьця, ня толькі не стрымала яе далейшага разьвіцьця, але наадварот—дапамагла каапэрацыі значна ўмацаваць свае пазыцыі і зрабіць шэраг новых заваяваньняў.

Ня гледзючы, аднак, на гэтыя бліскучыя практычныя дасягненьні, тэорыя каапэрацыі астаецца ў зачатачным стане, а гэта выклікала за сабой немаль што ня поўную адсутнастць агульна-даступных кі-

раўнічых друкаваных крыніц для пачынаючых каапэратараў.

Гэта брашура яўляе сабой — калі не памыляюся — першую спробу папулярнага выкладаньня грунтоўных пытаньняў каапэратыўнае тэорыі. Наскалькі яна можа быць вызнана ўдалай, аб гэтым пакідаецца вырашыць чытачом. Ва ўсякім разе, калі ёй удасцца зацікавіць хоцьбы некаторых з іх пытаньнямі каапэратыўнае тэорыі, аўтар будзе лічыць сваю працу недарэмна кінутай. Тых асобаў, што пажадаюць больш дэтальна пазнаёміцца з закранутымі тутака пытаньнямі, адсылаю да сваёй кнігі — „Грунт каапэратызму“.

Петраград.
1 чэрвеня 1917 году.



# I.

## Пачатак каапэратыунага руху і яго натура.

Што такое каапэрацыя, і калі яна зарадзілася?—вось пытаньне, якое натуральна паўстае перад кождым, прыступаючым да досьледу каапэратыўнага руху.

Шмат аўтараў адносіць паяўленьне гэтага руху да сярэдніх стагодзьдзяў, ці, нават, да глыбокай старадаўнасьці. А ёсьць і такія, што бачуць яго зародышы ў пчаліных калодах ці кучах муравейнікаў... Я ня йду гэтак далёка і ў згодзе з большасьцю аўтараў думаю, што каапэратыўны рух ёсьць прадукт новага часу.

У другой палове XVIII стагодзьдзя ў Англіі, а затым таксама ў

Францыі, Нямеччыне і іншых старонках—пачаў выяўляцца глыбокі эканамічны пераварот, які адзначаў сабой перамогу вялікага капіталу. Вынаходцы Аркрайт, Гаргрыўс і іншыя, выклікалі ў сьвет прадзільную і ткацкую машыны, якія ў некалькі дзясяткаў разоў павялічылі вытворчую працу чалавека. Вялізарныя тэхнічныя дасягненьні ў цэлым шэрагу іншых відаў прамысловасьці і вынаход Джэмсам Уаттам паравой машыны далі гаспадаром прадпрыемстваў новыя магутныя дзвігацелі (рухачы), бязконца лепшыя за ўсе ранейшыя. Прыйшла новая эпоха-пара і машыны. Дзякуючы гэтаму перавароту ў тэхніцы, вялікая вытворчасьць пачала выціскаць дробную, і заместа маленечкіх рамесьленых майстэрняў, якія панавалі раней, цяперака галоўны тон у прамысловым жыцьцю пачалі задаваць аграмадныя, шумныя фабрыкі і мануфактуры з сотнямі і тысячамі працаўнікоў.

Дробныя гарадкі-мястэчкі на вачох аднаго пакаленьня вырасталі ў буйныя цэнтры, народнае багацьце павялічывалася з нячуванай раней хуткасьцю, але побач з гэтым пачалі зьяўляцца і іншыя вынікі новага парадку: паўперызм (абядненьне), падзеньне нраваў, абвастрэньне адносінаў паміж гаспадарамі і працаўнікамі, безпрацоўе, стачкі і гэтак далей.

Грамадзкая думка не магла не задумацца над гэтымі зьявамі, і вось мы бачымо, што ў пачатку XIX стагодзьдзя зьявіўся цэлы шэраг сацыяльных сыстэм, якія з рожных бакоў і рожных пунктаў гледжаньня пачынаюць рашуча крытыкаваць толькі што паўстаўшы капіталістычны лад. **Гэта сыстэма вялікіх утапістаў — Робэрта Оўэна, Сэн-Сымона, Шарля Фур'е і іх вучняў.**

Ува ўсіх гэтых сыстэмах адно з цэнтральных мейсц займае ідэя асоцыяцыі, ці каапэрацыі; у ёй памянёныя сацыяльныя рэфарматары бачылі магутны спосаб зьнішчыць

паўперызм, звольніць наёмнага працаўніка ад прыгнечаньня капіталу, зрабіць яго незалежным і матар'яльна забясьпечаным і надаць яму ўсе здабыткі вышэйшае культуры.

З гэтай мэтай **Р. Оўэн** прапаноўваў пабудаваць прамыслова-земляробскія калёніі, або каапэратыўныя камуны, у складзе ад аднэй да трох тысячаў чалавек — мужчын, жанчын і дзяцей у іх звычайнай прапорцыі. Калёніі павінны складацца з асобаў рожных прафэсыяў і мець абшар зямелькі ад 300 да 500 дзесяцінаў. У цэнтры камуны павінны быць будынкі, пастаўленыя чатырохкутнікам з вялікім унутраным дваром. Тры бакі яго прызначаліся пад кватэры членаў, а чацьвёрты адвадзіўся для дзяцей, якія павінны выхоўвацца асобна ад сваёй сямейкі, далей ад якіх бы то ні было шкодных уплываў. Пасярод унутранага двору стаіць вялікі будынак у якім зьмяшчаецца грамадзкая кухня, сьнедальня, дзіцячыя сады, школы, бібліатэка, заля для

чытаньня і сходак і таму цадобнае.

У грамадзе ня будзе гаспадара, бо ўсе члены яе будуць агульна ўладаць фэрмамі і майстэрнямі. Ня будзе таксама і наёмных працаўнікоў, бо ўсе члены агульнымі сіламі будуць выраблядь усе патрэбныя прадукты, якія будуць дзяліцца паміж імі. Ад іх працы будзе залежаць іх уласны дабрабыт і чым больш члены грамады будуць працаваць, тым вышэй будзе ўровень іх дабрабыту. У грамадзе ня будзе ні паноў, ні дворні, ні беднякоў — тутака будуць толькі раўнапраўныя члены, якія будуць працаваць ня дзеля асабістае карысьці асобных адзінак, а дзеля агульнае патрэбы.

У падобным-жа выглядзе малявалі жыцьцё ў сваіх фаланстэрах **Фур'е** і яго прыхільнікі: і тутака выраб і спажываньне павінны былі быць арганізаваны на супольных началах, а праца—стаць незалежнай і вольнай.

Было шмат зроблена спробаў, як

у Эўропе, гэтак і ў Амэрыцы, каб правесьці ідэі Оўэна і Фур'е на практыцы ўва ўсёй іх шырыне, але ўсе спробы ня мелі посьпеху: усе грамады гэты замест таго, каб уплываць на акружаючую люднасьць і перарабляць жыцьцё яе на свой капыл, самі разваліваліся, або вырараджаліся.

Гэткім чынам плян, які павінен быў у кароткі час зрабіць грунтоўны пераварот у сацыяльна-эканамічным жыцьцю грамадзянства, пабудаваўшы яго на грунце супрацоўніцтва заместа канкурэнцыі, пацярпеў крушэньне, але **ідэі вялікіх утапістаў ня згінулі дарма**: з іх вырас сучасны каапэратыўны рух, налічваючы дзясяткі тысячаў рожнага тыпу арганізацыяў і мільёны членаў.

Праўда, сучасныя каапэратывы далёка не падобны на тыя камуны, аб якіх казалася вышэй: Оўэн і Фур'е лятуцелі аб цэласных, самастойных грамадах, задавальняючых уласнымі сіламі ўсе галоўнейшыя

патрэбы сваіх членаў і яўляючых сабой нібыта маленькія незалежныя дзяржавы; сучасныя каапэратывы зьяўляюцца арганізацыямі незраўняна больш скромнымі па сваіх безпасярэдніх мэтах і куды вузейшымі па сваіх задачах спэцыялізуючыся на асобных функцыях частковага характару,--як то: спажывецкія таварыствы, арцелі (сяброўствы) рожнага роду і гэтак далей.

Камуністычныя грамады зьяўляліся, гэтак кажучы, староньнім целам у сістэме капіталістычнае гаспадаркі і не маглі ўжывацца з ёй, адкідаючы грунтоўныя прынцыпы капіталістычнага ладу—прыватную ўласьнасьць, рынычны гандаль і наёмную працу; сучасныя-ж каапэратывы бяруць чалавека і гаспадарку гэткімі, якімі яны ёсьць, і могуць добра існаваць і разьвівацца нават пры сучасных капіталістычных варунках.

Тым ня менш, ня гледзючы на гэтыя буйныя рыскі рожніцы, па-

між імі ёсьць і нешта агульнае, і гэта агульнае дужа важнае: справа ў тым, што і каапэратывы, хоць і дужа паціху, кіруюцца да тэй-жа вялікай мэты — звальненьня чалавека ад падпарадкаваньня мёртвай рэчы — капіталу. Толькі грамады Оўэна і Фур'е дамагаліся вырашыць сацыяльнае пытаньне адразу, хацелі ўзяць быка за рогі, каапэрацыя-ж, лічучыся з цяжкасьцю задачы, падходзіць да развязаньня яе больш асьцярожна і дамагаецца перш за ўсё падняць роўню працоўнага клясу, зрабіць для яго ўжо цяперака, у варунках капіталістычнага ладу, больш лепшае існаваньне і шляхам арганізацыі, зьмяніць на яго карысьць узаемаадносіны сілаў паміж працай і капіталам, **каапэрацыя ёсьць вызваленчы, анцікапіталістычны рух, які мае на мэце паціху і павольна зьмяніць істнуючы капіталістычны лад у духе дэмакратычных ідэалаў.**

Гэтакі агульны зьмест каапэрацыі і агульны яе характар. Але

цяперака перад намі паўстае больш цяжкая задача—акрэсьліць межы каапэратыўнага руху і даць больш точную характарыстыку каапэратыву, як гэткаму, у адзнаку ад іншых, блізка падобных арганізацыяў.

Шмат аўтараў лічыць адзнакай каапэрацыі супрацоўніцтва, агульнае выкананьне якой-небудзь справы. З папярэдняга відаць, што гэта — не зусім так. Падзел працы і агульнае выкананьне яго практыкавалася і практыкуецца ў нявольнічай, прыгонай і капіталістычнай гаспадарках; аднак, гэта ня ёсьць яшчэ каапэрацыя. Усякая каапэрацыя ёсьць, зразумела, супрацоўніцтва, але **ня кожнае супрацоўніцтва ёсьць каапэрацыя**. Каапэрацыя ёсьць асобны від супрацоўніцтва, са сваімі асобнымі адзнакамі, да высьвятленьня якіх мы зараз і пяройдзем.

---

# II.

## Што такое праўдзівы каапэратыў?

Апрадзяленьняў (вызначэньняў) каапэратыву істнуе шмат, некалькі дзясяткаў; аднак да гэтага часу ў нас яшчэ няма гэткага вызначэньня, якое было-б агульнавызнаным і не выклікала бы спрэчак. Гэты факт яскрава сьведчыць аб сумным становішчы тэорыі каапэрацыі, а разам з тым робіць вялікую шкоду ў практыцы. Не маючы точна акрэсьленага значэньня словаў: „каапэрацыя“, „каапэратыў“, „каапэратыўны“ — людзі могуць дужа доўга і горача спрачацца пры абгаворах якога-небудзь пытаньня, не прыходзючы ні да якіх становчых вынікаў, бо кожны

з іх, гутарачы нібыта аб аднэй і тэй жа рэчы, укладае аднак у свае словы іншы, непадобны да другіх, зьмест і сэнс.

Разам з тым, пры адсутнасьці поўнага вызначэньня, да каапэратыўнага руху могуць, гэтак кажучы „прымазацца“ і выступаць пад яго штандарам гэткія грамадзкія элемэнты, якія маюць з ім дужа мала супольнага. За апошні час, калі, пад уплывам надзвычайнага росту кошту тавараў, агульнага разбураньня эканамічнага жыцьця і страшэннага ўзмацаваньня ўсялякага марадзёрства, грамадзкая думка зьмяніла сваё зімнае адношаньне да каапэрацыі на больш прыхільнае, гэта зьявішча пачало заўважацца асабліва часта.

„Зацьверджаны статут новага каапэратыву, — чытаемо мы, напрыклад, ў „Биржевыхъ Вѣдомостяхъ“ з 9 верасьня 1916 году,—Спажывецкага таварыства гаспадароў тракцірнага промыслу, гандляваўшых моцнымі напіткамі ў Петраградзе

і яго ваколіцах.

„Закладчыкі каапэратыву маюць надзею, што адчыненьне яго дасьць магчымасць тракціршчыкам атрымліваць у патрэбным ліку, па патрэбам іх прадпрыемстваў, рожныя прадукты, асабліва цукер“

„Сярод маскоўскіх фабрыкантаў і заводчыкаў,—паведамляе са свайго боку газэта „День“ у № 294 з 1916 год,у — зьявілася думка залажыць электрычны каапэратыў. На чале апошняга стаіць М. І. Гучкоў. Каапэратыў будзе абслугоўваць буйнейшыя фабрыкі і заводы Масквы“ і гэтак далей.

Чалавек, хоць крыху знаёмы з прынцыпамі каапэрацыі, адразу заўважыць, што пералічаныя „каапэратывы“—зусім не каапэратывы, а звычайныя капіталістычна-буржуазныя аб‘еднаньні, схаваўшыя сваіх акцыянэраў пад шыльдам каапэрацыі.

Адсюль відаць, якое важнае значаньне мае гэткае, здавалася-бы, фармальнае і далёкае ад жыцьця

пытаньне, як выпрацоўка точных вызначаньняў.

## Што-ж такое каапэратыў?

Найбольш пашыраным можна лічынь тое вызначаньне, якое прынята нямецкім каапэратыўным законам 1889 году; згодна з ім, каапэратыў ёсьць таварыства з неа-б межаным лікам членаў, маючае мэтай дапамагаць промыслу ці гаспадарцы сваіх членаў шляхом агульнага прадпрыемства.

Тутака прыняты пад увагу тры адзнакі каапэратыва: 1) неабмежаваны лік членаў, 2) дапамога промыслу ці гаспадарцы сваіх членаў і 3) агульнае прадпрыемства ці супольнае вядзеньне справы.

Разглядзім падрабязней гэтыя адзнакі.

Адсутнасьць абмяжаваньня ліку членаў робіць першую адзнаку каапэратыва як ад гандлёвых таварыстваў, лік членаў якіх абмяжованы ўмовай, гэтак і ад акцыянэрных таварыстваў, дзе абмежаваньне вынікае з самага характару гэ-

тае арганізацыі і апрадзяляецца лікам выпушчаных акцый.

Другая важная адзнака каапэратыва ў тым, што мэтай яго зьяўляецца дапамога гаспадарцы ці промыслу сваіх членаў. Гэтым каапэратыў адзначаецца як ад таварыстваў, маючых не гаспадарчыя, а ідэяльныя мэты (напрыклад, рожных прасьветных, навуковых, рэлігійных і т. п. таварыстваў), гэтак і ад тых арганізацыяў, што ставяць сабе мэтай дапамагаць гаспадарцы ці промыслу не сваіх членаў, а іншых асобаў.

Нарэшце, трэцяй адзнакай каапэратыву ёсьць тая, што пастаўленыя ім гаспадарчыя мэты правадзюцца шляхам агульнага прадпрыемства ці супольнага вядзеньня справы.

Гэтых трох адзнак у большасьці выпадкаў бывае даволі, каб убачыць, ці маемо справу з каапэратывам, ці не.

Аднак, дужа вялікім заганам нямецкага заканадаўчага апрадзяленьня

ня зьяўляецца тое, што ня ўсе віды каапэрацыі пад яго падыходзюць.

Гэтак, напрыклад, працоўныя арцелі (сяброўствы, грамады), заложаныя для гандлю працай сваіх членаў, ніякага агульнага вызначэньня ня маюць і, знача, з пункту гледжаньня нямецкага закону, а таксама большасьці сучасных тэарэтыкаў, якія бачуць у каапэратыве перш за ўсё **прадпрыемства**, пад вызначэньне каапэратыву не падыходзюць.

А між тым каапэратыў ёсьць перш за ўсё **хаўрус асобаў**, а не прадпрыемства. Яны могуць, і занраўды большасьць з іх арганізуе для сваіх мэтаў рожнага роду црадпрыемствы, але і тыя, якія гэтага ня робюць—не пазбаўляюцца ўсё-ж-ткі права на назву каапэратыву, калі адпавядаюць рэшце варункаў.

Таму больш адпавядаючым трэба лічыць тое апрадзяленьне (вызначэньне), якое прадугледжана ў праэкце расійскага „Пала-

жэньня аб каапэратыўных таварыствах у Маскве, Петраградзе і Кіеве, прынятым Дзяржаўнай Думай і зацьверджаным Часовым Урадам 20 сакавіка 1917 году.

Згодна гэтага палажэньня, **каапэратыўным таварыствам вызнаецца таварыства з пераменным складам і капіталам, якое, працуючы пад асобнай фірмай, мае мэтай дапамагаць матар'яльнаму і духоўнаму дабрабыту сваіх членаў шляхам супольнае арганізацыі рожнага роду прадпрыемстваў ці працы сваіх членаў.**

Гэта вызначэньне здаецца мне найбольш адпавядаючым, бо яно столькі шырокае, што пад яго могуць ужо падыйсьці ўсе віды каапэратыўных арганізацыяў. Запраўды, калі тутака адмечана, што каапэратыўнае таварыства мае мэтай дапамагаць матар'яльнаму і духоўнаму дабрабыту ня толькі спосабам арганізацыі рожных гаспадарчых прадпрыемстаў, але і шляхам

арганізацыі працы сваіх членаў, дык знача сюды могуць быць аднесены ня толькі спажывецкія таварыствы, крэдытныя, вытворчыя і іншыя хаўрусы, але і так званыя працоўныя арцелі (сяброўствы, грамады).

Аднак, і ў гэтага вызначэньня ёсьць свой заган — у ім няма ніякага ўспаміну аб тым вызваленчым, анцікапіталістычным руху, які мы ў папярэднім нарысе вызналі характэрнай адзнакай каапэратыўнага руху. Шмат аўтараў угледжываюць гэты анцікапіталістычны дух у спосабе падзелу даходаў (зыску). „Каапэратыў, — кажа вядомы францускі прафэсар Шарль Жыд, — гэта асоцыяцыя для зьніштажэньня зыску“. Пашыраючы гэту думку далей, В. Ф. Пекарскі прыходзе да гэткага вызначэньня: „Каапэратыў ёсьць эканамічны хаўрус, які падзяляе чысты зыск свайго прадпрыемства прапарцыянальна працы ў вырабе, забору—у гандлёвым прадпрыемстве, ці выкарыс-

танаму крэдыту ўкрэдытнай справе, і не выплачывае членам ні ў якім выглядзе прадпрынімацельскага зыску“.

Аднак, трэба мець на ўвазе, што способы падзелу зыску дужа разнародны і залежаць як ад ступені развіцьця, на якой стаіць дадзены каапэратыў, гэтак і ад пагляда, пануючых сярод яго членаў. Затым аб зыску і способах яго падзелу можна гутарыць толькі тамака, дзе ёсьць прадпрыемства, між тым мы ўжо ведаем, што ёсьць гэткія каапэратывы, якія не зьяўляюцца прадпрыемствамі — гэтак, напрыклад, працоўныя арцелі (сяброўствы, грамады) і падобныя ім арганізацыі. Знача, апрадзяленьне Пекарскага не падойдзе да іх і павінна быць вызнана дужа вузкім. Гэтай адзнацы, якая паказуе на анцікапіталістычны характар каапэратыва, павінен быць нададзены шырокі і агульны выгляд. На моцы вышэй выкладзеных развагаў мы прапануемо, як найбольш адпаведнае,

гэткае вызначэньне: **каапэратыў ёсьць дабравольнае аб'еднаньне неабмежаванага ліку асобаў, якое мае мэтай супольнымі высілкамі змагацца з эксплуататацыяй капіталу і палепшыць становішча сваіх членаў у працэсе вырабу, абмену ці падзелу гаспадарчае карысьці ці зыску, г. ё. як вытворцаў, спажыўцоў ці гандляроў працоўное сілы.**

—

# III.

## Клясыфікацыя каапэратываў.

Як мы ўжо казалі, каапэратыўныя таварыствы пачалі ўзьнікаць больш сто гадоў таму назад. Прынцып аб'еднаньня працоўных дзеля барацьбы з капіталам на эканамічным грунце аказаўся дужа ўдалым і карыстаньне ім у жыцьці стварыла вялікі лік рожных арганізацыяў. Гэты арганізацыі маюць рожныя назовы і адзначаюцца адна ад другой ці па складу членаў, ці па сваіх задачах, ці па якіх-колечы іншых прыметах; істнуюць, напр., крэдытныя таварыствы, спажывецкія хаўрусы, масларобныя арцелі (сяброўствы), будаўнічыя каапэра-

тывы, працоўныя грамады, прафэсыянальныя хаўрусы і г. д.

Дзеля гэтага, зусім натуральным

**зьяўляяцца пытаньне—як разабрацца ў гэтай шмат'аблічнасьці каапэратыўных арганізацыяў?**

і да якіх грунтовых тыпаў ці групаў іх аднесьці?

Дужа часта спатыкаемо мы падзел каапэрацыі на дзьве галіны—мястовую і вясковую. Аднак, гэткая клясыфікацыя каапэратываў, згодна мейсцу іх працы,—яўна безгрунтоўна, бо ў местах магчыма істнаваньне ўсіх тых відаў каапэрацыі, якія ёсьць на вёсках ці ў сельскай гаспадарцы.

Далей, шырока практыкуецца іншы раз падзел каапэрацыі на гэткія дзьве групы: 1) каапэратывы спажыўцоў і 2) каапэратывы вырабу. Да першае групы адносюць спажывецкія таварыствы і будаўнічыя каапэратывы, а да другой—усе іншыя. Але і гэту клясыфікацыю нельга вызнаць зусім правідловай, бо тутака ў другой групе

побач адзін-з-адным зьмяшчаюцца арганізацыі, якія дужа разыходзяцца паміж сабой, — як, напрыклад, крэдытнае, ці закупачнае таварыства і выробчая грамада. Не цяжка заўважыць, што тутака ў адну і тую-ж групу вытварцоў аднесены зусім рожныя сацыяльныя элемэнты: членамі крэдытных, масларобчых ці закупачных таварystваў зьяўляюцца дробныя гаспадарыасобы, маючыя сваё самастойнае прадпрыемства, у вытворчай-жа грамадзе мы маемо справу з калектыўнай гаспадаркай, і члены яе самастойнага асабістага прадпрыемства не вядуць. Адсюль ясна, што злучаць разам два гэтулькі рожных віды каапэратываў няможна.

Пяройдзем цяперака да разгляду клясыфікацыяў, якія дзелюць каапэрацыю на тры галіны. Найбольш старай і пашыранай зьяўляецца гэткі падзел:

**спажывецкая, вытворчая і крэдытная каапэрацыі.**

Аднак і гэту схэму трэба выз-

наць безгрунтоўнай, бо другая група (вытворчая каапэрацыя) астаецца тутака гэткай-жа пёстрай і рожнароднай, як і вышэй: праўда, з яе выдзелены крэдытныя таварыствы, маючыя шмат агульнага з таварыствамі закупцы і збыту гаспадарчых рэчаў, але за тое па-старому пакінуты вытворчыя і нават працоўныя грамады, якія дужа адзначаюцца ад іх. А таму з навуковага пункту гледжаньня гэты падзел зьяўляецца неадпаведным і немаль зусім ужо адкінуты навуковай літаратурай.

Есьць шмат яшчэ і іншых клясыфікацыяў, каапэратываў, але і яны таксама хварэюць вялікімі недахопамі.

Дык, як жа зладзіць з усімі гэтымі супярэчнасьцямі? Як пабудаваць гэткую сыстэму клясыфікацыі, якая, з аднаго боку, зьмяшчала-бы ў сябе ўсе істнуючыя тыпы каапэратываў, а з другога—падзяляла-бы іх у больш натуральныя і лягчэй аглядаемыя групы?

Зрабіць гэта магчыма толькі пад варункам правідловага разуменьня істоты каапэрацыі і яе мэжаў.

### Рожніца паміж каапэратывамі.

Як было ўжо казана вышэй, усякі каапэратыў ёсьць у грунце сваім арганізацыя, паставіўшая сваёй мэтай абарону інтарэсаў працы ў працэсе гаспадарчае дзеяльнасьці ад эксплуатацыі капіталу. Капіталізм у сваем гістарычным развіцьцю прывёў да стварэньня шматлічнае клясы асобаў, ня маючых гаспадарчае незалежнасьці, г. ё. пазбаўленых уселякіх сродкаў і прыладаў вытворчасьці і

### істнуючых толькі прадажай сваяе працы.

Каб перашкаджаць эксплуатацыі капіталу, бараніцца ад яе і палепшыць сваё становішча, працоўная кляса стварыла шэраг арганізацыяў, пабудаваных на прынцыпах самадапамогі і еднасьці. Гэткімі зьяўляюцца перш за ўсё прафэсыянальныя хаўрусы, якія, апіраючыся на сілу накопленых паявых фон-

даў, дамагаюцца ўпарадкаваньня даўжыні працоўнага часу, павялічэньня платы за працу і палепшаньня іншых варункаў працы. Змаганьне з капіталам ідзе: або мірным шляхам згоды, або стачнай барацьбой. Далей ідуць працоўныя грамады (арцелі, сяброўствы), якія ставяць сабе мэтай палепшыць варункі прадажы працоўнае сілы сваіх членаў тым, што збаўляюць іх ад безпасярэдняга стыку адзін-на-адзін з прадпрынімацелям, або падрадчыкам, бяручы на калектыў выкананьне працы. Затым ідуць аб'еднаньня, набудаваныя на прынцыпе ўдзелу ў кіраваньні прадпрыемствам і падзелу яго зыскаў (копартнершын). Нарэшце, сюды-ж павінны быць аднесены вытворчыя сяброўствы, якія абараняюць інтарэсы сваіх членаў ад уціску капіталу тым, што арганізуюць калектыўнае прадпрыемства на грунце супольнае працы і кіраўніцтва.

Але, апрача клясы наёмных працаўнікоў, у сучасны момант істнуе

яшчэ многалічная кляса **дробных вытворцаў**, больш ці менш удала абаранаючых сваю незалежнасьць у цяжкім змаганьні з капіталам. Кляса гэтая, галоўным чынам, захавалася ў земляробстве (працоўнае сялянства) і значна менш у прамысловасьці (дробныя рамесьнікі і кустары). Капітал пагражае гаспадаркам працоўнага тыпу з рожных бакоў, і барацьба з ім у гэтай вобгасьці выклікала да жыцьця цэлы шэраг каапэратыўных арганізацыяў. Гэтак, пазычкова-ашчадныя крэдытныя таварыствы даюць ім патрэбныя для гаспадаркі абаротныя грошы вызваляючы гэтым з лапаў растаўшчыка. Сыр'ёвыя і закупачныя таварыствы ставяць сабе мэтай дастаўляць сваім членам рожнае сыр'ё, машыны, насеньне, штучнае ўгнаеньне і іншае—з першых рук, абмінаючы пасрэднікаў. Таварыствы збыту робюць тое самае, прадаючы тыя прадукты, якія вырабляе гаспадарка селяніна ці ра-

месьніка. Масларобчыя сяброўствы таксама зьяўляюцца таварыствамі збыту, бо галоўная іх мэта ў тым, каб найлепшым спосабам збываць на рынку млека, дадзенае членамі сяброўства і перарobленае на масла на ўласным заводзе. Далей ідуць падсобныя сяброўствы, члены якіх злучаючыся для супольнае закупкі некаторых сродкаў і прыладаў вырабу, карыстаюцца імі, аднак, кожны па-асобку і за свой уласны кошт. Нарэшце, асобную групу складаюць страхавыя таварыствы, мэта якіх — забяспечыць ад няшчасных здарэньняў грунтовыя элемэнты гаспадарчага дабрабыту — ураджай, жывёлу, будоўлі і іншае.

Але, апрача гэтых дзьвёх груп, ёсьць яшчэ каапэратыўныя арганізацыі іншага гатунку, абараняючыя

**інтарэсы сваіх членаў, як спажыўцоў.**

Раней, у дакапіталістычнай прамысловасьці, працаўнік атрымліваў

кватэру і ўтрыманьне ад гаспадара, у якога ён жыў; таксама і селянін на вёсцы, нават яшчэ ня дужа даўно, толькі самую незначную частку рэчаў спажытку купляў з боку, бо ўсё яму патрэбная выраб-ляла ўласная гаспадарка. Цяпераka, з развіцьцём капіталістычных адносінаў, становішча спраў грунтоўным чынам зьмянілася — ня толькі працаўнік увесь свой заробак атрымлівае налічнымі грашыма і вядзе ўласную гаспадарку, але і селянін усё большую долю прадуктаў ужытку атрымлівае ўжо шляхам пакупкі, дзе ён стыкаецца з гандлёвым пасярэдніцтвам і ўсімі няўнікаемымі яго вынікамі — узвінчываньнем цэнаў і фальсіфікацыяй прадуктаў. Гэтак ствараецца ўздячны грунт для разьвіцьця спажывецкіх таварыстваў, якія ставюць сабе мэтай змаганьне з гандлёвым капіталам у гэтым кірунку. Да іх блізка падыходзюць, гэтак званыя, будаўнічыя ці сялібныя таварыствы, якія будуюць

кватэры для сваіх членаў, звальняючы іх ад уціску будынкаўласьнікаў.

## Клясыфікацыя каапэратываў.

Гэткім чынам, найбольш правідловая клясыфікацыя каапэратываў вымалёўваецца мне ў гэткі спосаб:

1. **Каапэратывы прадаўцоў працоўнае сілы:** а) прафэсыянальныя хаўрусы; б) працоўныя сяброўствы; в) аб'еднаньне на грунце копартнершына; г) выробчыя таварыствы.

2. **Каапэратывы спажыўцоў:** а) спажывецкія таварыствы; б) закупачныя таварыствы; в) таварыствы збыту; г) падсобныя сяброўствы; д) страхавыя таварыствы.

---

# IV.

## Каапэрацыя і прафэсыянальны рух.

Цяперака мы спынімся на разглядзе пытаньня аб ўзаемаадносінах паміж каапэрацыяй і прафэсыянальным рухам, да якога мы падыйшлі ў папярэднім нарысе.

Звычайна, як ў літэратуры, гэтак і ў гутарках, прафэсыянальныя хаўрусы рашуча адмяжоўваюцца ад каапэратываў, як арганізацыі зусім, нібыта, іншага тыпу. Аднак, нельга не заўважыць, што працівастаўляючы адзін-аднаму гэтыя арганізацыі, ніхто звычайна не спыняецца падрабязна на высьвятленьні грунтовых рысак іх рожніцы,

а ўсе лічуць гэта сама—сабой зразумелым. Між тым, калі разглядзець гэта пытаньне больш дэтальна, дык акажацца, што запэўняная ці гаданая рожніца ў значнай меры павялічана, і што, апрыч таго, паміж імі ёсьць зусім ясныя і пэўныя рыскі сваяцтва.

У нарысе другім гэтае кнігі мы ўстанавілі вызначэньне каапэратыву. Да гэтага вызначэньня дужа блізка падыходзе таксама і зацьверджанае 20 сакавіка 1917 году Часовым Урадам палажэньне аб каапэратыўных таварыствах і іх хаўрусах. Згодна § 1 палажэньня, „да каапэратываў адносяцца таварыствы з пераменным складам членаў і капіталам, якія, працуючы пад асобнай фірмай, маюць мэтай дапамагаць матэр'яльнаму і духоўнаму дабрабыту сваіх членаў, шляхам арганізацыі рожнага роду прадпрыемстваў ці арганізацыі працы сваіх членаў".

Гэта урадовае вызначэньне здаецца мне найбольш адпаведным

з усіх, даваных у сучасны момант законадаўчымі актамі. Але калі ўдумацца ў яго, дык ня цяжка ўбачыць, што яно ў істоце сваёй зьніштажае звычайнае працівапастаўленьне прафэсыянальнага хаўруса адкаапэратыву. Запраўды-ж, тры адзнакі можна лічыць грунтоўнымі для характэрызацыі кождае арганізацыі: 1) **мэта**, якую сабе ставіць арганізацыя, 2) **сродкі**, з дапамогай якіх зьбіраецца яна ўжыцьцёвіць гэту мэту, і 3) яе **структура**.

Адносна мэты вышэй памянёны закон кажа, што каапэратыў ставіць сабе мэтай дапамагаць матар‘яльнаму і духоўнаму дабрабыту сваіх членаў. Але-ж гэтага дамагаецца і прафэсыянальны хаўрус, такім чынам рожніцы паміж імі няма ніякай. Але, можа быць, яны адзначаюцца адзін ад аднаго тымі сродкамі, якія ўжываюцца імі для правядзеньня ў жыцьцё сваяе мэты?

Для каапэратываў характэрным зьяўляецца тое, што яны йдуць шляхам стварэньня рожных прад-

прыемстваў і арганізацыяў працы сваіх членаў. Прафэсыянальныя хаўрусы ня робюць ніякіх прадпрыемстваў, скіраваных да атрыманьня зыску (хоць ёсьць напрамак, які даводзе, што яны могуць і павінны ўзяцца за гэта), але яны арганізуюць працу сваіх членаў і гэткім чынам дамагаюцца паляпшэньня варункаў збыту.

Гэткім чынам, астаецца толькі апошняя адзнака—структура, г. ё. унутранная будова арганізацыяў: рожная яна ці аднальковая ў каапэратыўных і прафэсыянальных хаўрусах? І тыя і другія зьяўляюцца, па-перш, аб‘еднаньнямі дабравольнымі і разам з тым не замкненымі, а адчыненымі для неабмежаванага загадзя ліку членаў; па-другое, абодвы яны належаць да тыпу арганізацыяў эканамічных, што адзначае іх ад таварыстваў, маючых мэты выключна ідэальныя, ці духоўныя. Тутака мне могуць зазначыць, што ў прафэсыянальных хаўрусах няма паёў, якія яў-

ляюць характэрную адзнаку каапэратыўных таварыстваў. Аднак, на гэта можна адказаць, што і сярод каапэратываў ёсьць такія, якія абыходзюцца без паёў; сюды належуць — крэдытныя таварыствы Райфэйзэноўскага тыпу, працоўныя сяброўствы і некаторыя іншыя.

Некаторыя аўтары даводзяць тую рожніцу, што прафэсыянальныя хаўрусы ёсьць баявыя арганізацыі, тады як каапэратывы скіроўваюцца да замірэньня інтэрасаў працы і капіталу і далёка стаяць ад усякае барацьбы. Найбольш рашуча праводзіцца гэты пагляд Гансам Мюллерам, па думцы якога „клясовае змаганьне і мэтоды арганізацыі каапэратываў выключаюць друг друга“, і што „клясовая барацьба варожа каапэратыўнай ў сваіх прынцыпах і нерасаўмясьціма з ёю“; ня менш рашучым абаронцай гэтага пагляду зьяўляецца і В. Ф. Тотоміанц. Аднак, у аснове яго ляжыць яўнае непаразуменьне. „Каапэратывы —

як правідлова заўважае М. У. Туган-Бараноўскі — вядуць ня менш энэргійную барацьбу з капіталістычнай клясай, чым працоўныя хаўрусы, але зусім іншым чынам. Творучы новае прадпрыемства, каапэратыў канкурыруе з капіталістычнымі прадпрыемствамі і нішчыць апошнія. У гэтым кірунку праца каапэратыву яшчэ страшней для капіталістычнага прадпрыемства, чым працоўны хаўрус. Апошні дамагаецца зьмяніць узаемаадносіны сілаў у сярэдзіне капіталістычнага прадпрыемства з ушчэрбам інтарэсаў капітала, але ня толькі дамагаецца разбураньня самога прадпрыемства, але наадварот, ня менш самаго капіталісты зацікаўлены ў захаваньні яго. Самай вялікай пагрозай працаўнікам зьяўляецца зачыненьне прадпрыемства: няма працадацеля — няма і працы. Наадварот, каапэратыў ня толькі не баіцца спыненьня капіталістычнага прадпрыемства, але як раз і кіруецца да гэтага. Кожны каапэра-

тыў мае перад сабой пэўны від капіталістычнага прадпрыемства, з якім ён канкурыруе і якога дамагаецца зьнішчыць. У гэтым сэнсе каапэрацыя вядзе з капіталізмам яшчэ больш рашучае змаганьне, чым іншыя арганізацыі працоўнае клясы“...

Сам М. Туган-Бараноўскі ўгледжывае паміж імі тую рожніцу, што каапэратыў зьяўляецца творчай, будуючай сілай, а прафэсыянальны хаўрус — руйнуючай. Але ці так гэта? Калі мы вызналі, што каапэратыў ёсьць сацыяльнае змаганьне, дык і ў ім павінен быць руйнуючы элемэнт, бо дзе ёсьць змаганьне, тамака ня можа ня быць жаданьня разбурыць ці зьнішчыць ворага. А з другога боку і праца прафэсыянальных хаўрусаў, не зьяўляецца выключна толькі разбурываючай, але і творчай, ці вярней — яна выглядае руйнуючай толькі з пункту гледжаньня прамыслоўца-прадпрыемцы, з грамадзкага-ж пункту гледжаньня яна бя-

зумоўна зьяўляецца будаўніча-творчай. Бо-ж галоўныя функцыі працоўных хаўрусаў у тым, каб падняць сацыяльную роўню сваіх членаў і замяніць самадзяржаўны рэжым капіталістычных прадпрыемстваў на новы канстытуцыйны, пры якім унутраны лад устанаўляўся-б не самаўладным загадваньнем гаспадара, а агульнымі нормамі калектыўнае ўмовы, выпрацаванай пры безпасярэднім удзеле саміх працаўнікоў і рэгуліруючага ўсе галоўнейшыя бакі іх жыцьця на фабрыках. Гэтак паступова, крок-за-крокам, выпрацоўваюцца новыя адносіны і новыя людзі ў нэтрах самага капіталістычнага ладу, палегчаючы і падрыхтовываючы ў будучыне магчымасьць яго ліквідацыі. А гэта функцыя—бязспрэчна творчая...

Гэткім чынам, разгледзіўшы пытаньне больш дэтальна, мы бачымо, што звычайнае супроцьстаўленьне каапэрацыі і прафэсыянальнага руху не вытрымлівае крытыкі.

Праўда, у прафэсыянальных хаўрусах ёсьць свае індывідуальныя асаблівасьці, але яшчэ больш ёсьць у іх рысак падобнасьці, што і дае нам права разглядаць іх, як асобны від аднаго агульнага роду — каапэратыўных таварыстваў, як гэта і было паказана ў главе аб клясыфікацыі.

На першым кангрэсе працоўных спажывецкіх таварыстваў, адбыўшымся 1 — 6 жніўня 1917 году ў Петраградзе, была прынята гэткая рэзалюцыя па даннаму пытаньню:

„1. Узаемаадносіны каапэратываў і прафэсыянальных хаўрусаў павінны быць сяброўскімі.

2. Каапэратывы павінны дапамагаць прафэсыянальным хаўрусам у іх барацьбе з капіталам.

3. Каапэратывы павінны дамагацца, каб усе працаўнікі і служачыя іх прадпрыемстваў былі членамі прафэсыяльных хаўрусаў і прыймаліся з прафэсыянальных хаўрусаў.

4. Каапэратывы павінны ўвадзіць

у сябе калектыўны дагавор (сяброўскую ўмову).

5. Каапэратывы павінны мець зьвязак з хаўрусамі для арганізацыі культурна-прасьветнае працы і ўзаемадапамогі.

6. Каапэратывы павінны мець цесную ўзаемадзеяльнасьць з прафэсыяльнымі хаўрусамі шляхам узаемнага прадстаўніцтва паміж кіруючымі органамі.

7. Кангрэс выносіць пажаданьне, каб усе члены каапэратываў былі членамі прафэсыянальных хаўрусаў.

8. Кангрэс выносіць пажаданьне, каб усе члены прафэсыянальных хаўрусаў былі членамі каапэратываў“.

## V.

## Каапэрацыя і палітычныя партыі.

Пытаньне аб адносінах каапэрацыі да палітыкі і палітычных партыяў належыць да ліку вельмі складаных пытаньняў і ў рожныя часы вырашалася па-рожнаму, у залежнасьці ад варункаў, мейсца і часу. Робэрт Оўэн і Шарль Фур'е, роданачальнікі сучаснага каапэратыўнага руху, і самі глядзелі на палітыку згары і ў сваіх прыхільніках выхоўвалі варожае да яе адношаньне. Гэтак, Оўэн, напрыклад, жорстка нападаў на чартыскі рух,

які дамагаўся агульнага выбарчага права, і горача заклікаў сваіх аднадумнікаў не прыймаць удзелу ў гэтым руху.

„Палітычныя правы,—казаў ён,—не палепшуць становішча працоўных і не пазбавяць іх ад мукаў. Згодна думак чартыстаў, трэба спачатку атрымаць палітычныя правы, а потым ужо брацца за будоўлю калёніяў агульнае роўнасьці... Але мы адважваемося запэўняць, што арганізацыя іх зусім не залежыць ад заваяваньня выбарнага права. У адносінах да працоўных калёніяў зусім усё роўна, які урад у краю — дэспотычны ці дэмакратычны“...

Таксама і Фур‘е ў супроцьвагу гарантыям палітычным, высоўваў дамаганьне гарантыяў сацыяльных і залічаў сябе ў гонар тое, што ён „адзін закляйміў дваццаць стагодзьдзяў палітычнага вар‘яцтва“, г. ё. веру ў неабходнасьць палітычных пераваротаў, каб пазбавіць чалавецтва ад беднасьці, а працу—ад

уціску капіталу.

Гэткае адношаньне да палітыкі выклікалася тым, што

**Оўэн і Фур'е глыбока верылі ў магчымасьць хуткага і радыкальнага перабудаваньня сучаснага грамадзянства**

шляхам арганізацыі прапанаваных імі асобных каапэратыўных калёніяў і фаланстэраў. Уся іх увага была цалком скіравана ў гэты бок: варта толькі сабраць грошы і людзей, каб залажыць адну гэткую пробную калёнію — і гадоў праз пяць, калі не раней, уся Эўропа, а за ёй і іншыя старонкі пакрыюцца гэткімі-ж калёніямі, і сучасны буржуазна-капіталістычны сьвет, пабудаваны на эксплуатацыі працы і перапоўнены варожасьці і гвалту, згіне і адчыне мейсца новаму гарманічнаму ладу.

Аднак, жыцьцё не апраўдала гэтых ружовых надзеяў, і ўсе спробы стварэньня гэткіх сацыялістычных грамадаў скончыліся няўдачай. Але зярняты, кінутыя Оўэ-

нам і Фур'е, не загінулі, і на грунце, падгатаваным разьвіцьцём капіталістычнага выробу, вырас сучасны каапэратыўны рух. І па меры таго, як рух гэты паціху і патрошку нарастаў і пашыраўся, перад каапэратыўнымі дзеячамі ўсё ясьней і ясьней высьветлялася думка, што астаточная мэта дужа далёка, цяжкі да яе шлях і

**каб дабіцца хутчэйшага і поўнага збаўленьня працы ад паняволеньня капіталу — зусім ня ўсё роўна які палітычны лад пануе ў старонцы.**

І тады ранейшае раўнадуш'е ці варожасьць да палітыкі зьмянілася на больш спачуваючыя да яе адносіны, якія знайшлі сабе выяўленьне ў формуле палітычнага нэйтралітэту і ў вызнаньні таго, што **каапэрацыя ёсьць толькі адна з галінаў агульнага руху, ськіваванага да збаўленьня працы ад уціску капіталу.**

На перпы пагляд можа стацца, што за прынцыпам нэйтралітэту

каапэрацыі хаваецца ранейшае роўнадуш'е яе да палітыкі, якое гэтак адзначала закладчыкаў каапэратыўнага руху. Але гэта ня так. — Кажучы аб тым, што каапэрацыя павінна быць нэйтральнай у палітыцы і што яна ня можа дамагацца ад сваіх членаў належнасьці да тэй ці іншай партыі, мы зусім ня хочамо гэтым падкрэсьліць, што для яе ўсё роўна — карыстаецца народ палітычнай воляй ці знайходзіцца пад уціскам абсалютызму. Не, гэта адзначае толькі тое, што эканамічная праца не павінна быць зьмешывана з палітычнай, а што для кожнай з іх павінна быць створана асобная арганізацыя, спэцыяльна дапасаваная да сваіх мэтаў.

Еднаючы сваіх членаў на грунце выразных гаспадарчых інтарэсаў, каапэрацыя натуральна не павінна лічыцца з іх палітычнымі ці фракцыйнымі поглядамі, бо гэта пагражае гэткім падрабленьнем сілаў, пры якім яна ня змо-

жа выканаць простых сваіх заданьняў. Так, напрыклад, калі-б спажывецкае таварыства пачало лічыцца з палітычнымі поглядамі сваіх членаў, дык прыйшлося-б у кожным райёне заместа аднэй стварыць дзьве, тры ці болей каапэратыўных крамы: для кождае партыі сваю асобную партыйную спажывецкую краму. Але-ж гэта было-б яўным абсурдам!

Дзеля гэтага ўнутры сваёй арганізацыі члены каапэратыву павінны праяўляць безумоўную цярплівасьць і кіравацца выключна думкамі і патрэбамі працы. Але „за межамі каапэратыва, — як правідлова заўважае М. І. Туган-Бараноўскі,—члены яго, як грамадзяне, бяруць удзел у палітычным жыцьцю краю“.

**Захопленасьць каапэрацыяй не павінна ні самамалейшым чынам прыводзіць да палітычнага індэфэрэнтызму.**

— „Выключэньне палітыкі з каа-

пэрацыі асноўваецца не на зьневажэньні да яе з боку каапэрацыі, а на сьвядомасьці рожніцы гэтых галін грамадзкага жыцьця. („Сацыяльныя асновы каапэрацыі“. 516 стар.).

Гэты пункт гледжаньня нэйтральнасьці каапэрацыі ў агульным і цэлым трэба вызнаць правідловым; але ня варта ўсё-ж-ткі лічыць яго якімсь-ці абсалютным і апошнім вымаўленьнем праўды, не падлягаючым больш ніякай зьмене ці ўдасканаленьню. У часнасьці, напрыклад, тое зусім фармальнае разуменьне прынцыпа нэйтральнасьці, якое яўляецца цяперака пануючым, здаецца мне ўжо неадпаведаючым часу.

Да праўды-ж, калі мы вызнаемо, што каапэратыўны і палітычны рух ёсьць толькі рожныя галіны аднаго цэлага, дык натуральна паўстае пытаньне: ці можна задаволівацца тым, што гэты галіны пакінуты зусім ізаліраванымі адна-ад-аднэй, і ці ня можна зрабіць паміж імі

вядомы кантакт, каб узаемна дапамаць адзін-аднаму?

Але тутака мяне чакаюць спрэчкі: так, зразумела, прынцыпова вызнаць гэта лёгка, але ў якой форме можа выявіцца гэта сувязь і падтрымка?

Формальнае далучэньне таго ці іншага каапэратыву да якой-небудзь палітычнае партыі ня можа быць вызнана карысным, бо можа выклікаць за сабой раскол паміж членамі і распадзеньне адзінае арганізацыі на некалькі больш дробных і слабых.

За апошні час у Англіі некалькі разоў абгаварывалася пытаньне аб выстаўленьні каапэратывамі сваіх уласных кандыдатаў у парлямэнт, г.-ё. аб стварэньні ў ім каапэратыўнага прадстаўніцтва. На каапэратыўным кангрэсе ў Пэрце рэзалюція, казаўшая аб жаданьні мець сваё прадстаўніцтва ў палаце грамад, была прынята аднагалосна, а праз два гады на кангрэсе ў Пелсе зноў падцьверджана аграмаднай

большасьцью галасоў.

Аднак практычнага значаньне рэзалюцыі гэты ня мелі, і на кангрэсе ў Ньюпорэ пастаноўлена было байкатаваць парлямэнт, г.-ё. павярнуцца назад да тактыкі палітычнага нэйтралітэту. Кіраваліся пры гэтым думкай, што спэцыяльна-каапэратыўная праграма ня зможа сабраць вялікую масу выбаршчыкаў, а пры невяліччкім ліку прадстаўнікоў роль іх у парлямэнце будзе дужа малая і ўскладаць на іх вялікія надзеі няможна.

Дык што ж тады астаецца? Мне здаецца, едыны выхад астаецца вось у чым:

**каапэратывы не павінны абмяжоўвацца пасыўнай роляй у часе выбарчай кампаніі,**

а абавязаны ўплываць на сваіх членаў, каб яны выконывалі свой грамадзкі абавязак (абавязковая падача голасу) і ў гэтых мэтах дапамагаць ім высьвятленьнем аснаўных палітычных пытаньняў бягучага момэнту.

Каапэратывы павінны ўзяць на сябе арганізацію перадвыбарчых сходаў для сваіх членаў і запрашаць туды прадстаўнікоў рожных дэмакратычных партыяў, пры гэтым на сканчэньні спрэчак можа быць прынята рэзалюцiя, з парадай членам каапэратыву падаваць свае галасы за таго ці іншага кандыдата.

Гэткая тактыка па істоце сваёй не пярэчыць прынцыпу нэйтральнасьці, бо азначаная парада не мае абавязковага характару для членаў каапэратыву і, апрача таго, зьвязвае каапэратыў з пэўнай палітычнай партыяй толькі на дадзены выпадак. Разам з тым яна, зразумела, яўляе крок напорад у параўнаньню з сучасным становішчам, калі каапэратывы зусім ухіляюцца ад выбараў, і дапаможа паменшыць % абсэнтэістаў, г.-ё. асобаў, ухіляючыхся ад галасаваньня ці падаючых голас з выпадковых матываў.

Але, з другога боку, і палітыч-

ная партыя павінна ўзяць на сябе вядомыя абавязкі ў адносінах да каапэрацыі. Спробы некаторых ангельскіх кругоў стварыць уласнае прадстаўніцтва ў парлямэнце мае безумоўна сымптоматычнае значэньне і сьведчыць аб іх незадаволеннасьці мала энэргійнай абаронай інтарэсаў каапэрацыі збоку сучасных палітычных партыяў. Каб паралізаваць гэту зьяву, трэба: па-перш, каб партыя, за кандыдатаў якой члены каапэратыўных арганізацыяў падаюць свае галасы, мела ў сваім складзе ў парлямэнце практычных працаўнікоў каапэрацыі, і па-другое, каб яна лічыла для сябе абавязковымі тыя пастановы, якія прыймаюцца ў каапэратыўных справах на каапэратыўных кангрэсах. Гэткія, — мне здаецца,— узаемаадносіны павінны быць паміж каапэратыўным і палітычным рухам, у згодзе з новымі варункамі жыцьця.

Першы раз гэта пытаньне было пастаўлена ў Расіі пасьля рэва-

люцыі, на кангрэсе 4—6 кастрычніка 1917 году ў Маскве, у зьвязку з выбарамі да Устаноўчага Сойму. Тутака, пасьля жаркіх спрэчак значнай большасьцю галасоў была прынята рэзалюцыя, запрашаўшая каапэратыўныя арганізацыі ўзяць самы чынны удзел у выбарчай кампаніі. Прычым дапушчалася нават выстаўленьне асобных каапэратыўных выбарчых сьпіскаў, дзе гэта будзе знойдзена патрэбным мяйсцовымі каапэратыўнымі арганізацыямі.

## VI. Істота каапэратызму, як асобнае сацыяльна-эканамічнае сыстэмы.

У каапэратыўнай літэратуры вялікі час панавала думка, што каапэрацыя ёсьць ўнеклясавы рух, мэта якога аб'еднаць самыя рожныя слаі жыхарства ў імя сацыяльнага спакою. Аднак, за апошні час гэта думка ўсё больш і больш траціць свой аўтарытэт.

У каапэрацыі мы цяперака ўжо бачым зусім акрэсьлены сацыяльны рух, скіраваны на змаганьне з капіталам і ў абарону інтэрасаў працы. Разам з тым ўсё больш і больш разьвейваецца думка аб тым, што каапэрацыю адзначае нейкі асобны дух і мэтад, ня маючы

нічога супольнага з мэтадам клясовага змаганьня.

Арганізуючы ўласны выроб, каапэратывы ўступаюць у барацьбу з прамыслоўцамі. Аб'еднаючыся ў спажывецкія таварыствы, працоўныя клясы абвешчаюць вайну крамнікам і рожнага роду гандлёвым пасрэднікам. Будаўнічыя таварыствы йдуць у паход супроць эксплёатацыі жыхарства збоку будынкаўласьнікаў ці зямляўласьнікаў і гэтак далей.

На міжнарадовым сацыялістычным кангрэсе ў Капэнгагэне (1910 г.) было нарэшці вызнана, што

**працоуная кляса можа з вялікаю карысьцьцю ужываць у сваей клясавай барацьбе каапэратыуную зброю**

і што ў інтэрасах самой рабочае клясы і яе змаганьня з капіталізмам патрэбна, каб адносіны паміж усемі часткамі працоўнага руху — палітычным, прафэсіянальным і каапэратыўным — рабіліся ўсё бліжэйшымі, не парушаючы гэтым сама-

стойнасьці кождае з іх. Тутака, аднак, варта і сваечасна зрабіць некаторыя агаворкі і папраўкі.

Формула трыадзінасьці працоўнага руху, абвешчаная на Капэнгагэнскім Кангрэсе, выяўляе сабой прагрэс толькі ў практычных ўзаемаадносінах, пасколькі яна адхіляе панаваўшую раней (асабліва ў марксіцкіх колах) варожасьць супроць каапэрацыі і падымае яе на ступень руху, раўнапраўнага з двумя другімі — палітычным і прафэсіянальным,—а збоку тэорытычнага яе ня можна вызнаць задавальняючай.

Да праўды, падзяліць сучасны сацыяльны рух на тры часткі лёгічна правідлова можна толькі тады, калі стаць на пункце гледжаньня старых тэорэтыкаў каапэрацыі, бачыўшых у ёй ўнеклясовую натуру. Тады ён будзе выглядаць гэткім чынам: 1) палітычны рух (сацыялістычная партыя), 2) эканамічна-клясовы рух (сіндыкалізм, трэд-юніонізм, прафэсыя-

нальны хаўрус) і 3) эканамічны рух унеклясовага характару (каапэрацыя).

Але вышэй мы ўжо казалі, што звычайнае супроцьпастаўленьне каапэратыву і прафэсіянальнага хаўрусу не вытрымлівае крытыкі — таксама, як і развагі аб ўнеклясовым характару каапэратыўнага руху.

Калі ж гэта — так, дык тады, знача, адпадае грунт для падзелу ўсяго сацыяльнага руху на тры галіны, бо апошніх дзьве — зьяўляючыся абодвы і эканамічнымі і клясовымі — зьліваюцца ў адно.

Гэткім чынам, мы прыходзімо да пастановы аб

**двуадзінасьці сучаснага сацыяльняга руху**

і кажамо, што ён складаецца з дзьвюх галінаў: **палітычнае**, якая ахоплівае працу палітычных (сацыялістычных) партыяў і ставіць сваей мэтай уплываньне на органы дзяржаўнае ўлады, і **эканамічнае,** якая ахоплівае шматлічныя эка-

намічныя арганізацыі і бароніць інтэрасы сваіх членаў як вытворцаў, спажыўцоў і прадаўцоў працоўнае сілы.

І вось гэты апошні рух, ахопліваючы ў сябе як асоб, жывучых прадажай сваей працы, гэтак і тых, хто не страціў яшчэ сваей самастойнасьці дробных вытворцаў (паскольку яны выходзяць са становішча замкнёнасьці і ізаляванасьці і аб'ядноўваюцца ў таварыствы, анцікапіталістычнага характару), мы называем словам **каапэратызм**.

Тое-ж, што да гэтага часу звычайна завуць каапэрацыяй, і прафэсіянальны рух ёсьць ня больш, як толькі розныя віды аднаго агульнага каапэратыўнага руху.

**Гэткім чынам, каапэратызм ёсьць анцікапіталістычны рух.**

Яго ўнутраны смысл ёсьць змаганьне за вызваленьне працы ад паняволеньня капіталу.

Гэта змаганьне праяўляецца шматвобразна, ў залежнасьці ад

тых варункаў, у якіх яно вядзецца, і згодна тых формаў, якія прыймаюць створаныя дзеля гэтага змаганьня арганізацыі. Але ўва ўсякім разе **каапэрацыя і каапэратыўнае змаганьне не пераходзіць безпасярэдня ў працу палітычную** і заўсёды больш-менш рэзка адзначаецца ад яе.

Але якое-ж значаньне мае гэткае пашырэньпе пануючага цяперака разуменьня каапэрацыі і яе межаў?

Значаньне яго ў тым, каб залажыць магчыма больш блізкія адносіны паміж рожнымі часткамі сучаснага сацыяльнага руху, скіраванага да вызваленьня працы. Між тым у сучасны момант паміж асобнымі галінамі яго заўважаецца значная сьцюдзенасьць і нават варожасьць. Возьмем, напрыклад, Англію — клясычную старонку каапэрацыі і трэд-юніонізму. Ня гледзючы на тое, што абодвы гэтыя рухі абслугоўваюць і складаюцца са складу працоўнае

клясы, адносіны паміж імі пакідаюць жадаць лепшага.

„Некаторыя апосталы каапэратыўнае веры, — кажа у сваём докладзе на адной канфэрэнцыі Б. Вебб, — да гэтага часу пераканаsucceeded ў непатрэбнасьці трэдюніонізму і запэўняюць, што для працаўнікоў было-б лепей, калі-б яны кінулі спробы арганізацыі працоўных хаўрусаў і задаволіліся бы карысьцю, атрымліваемай ад каапэрацыі. Я ня ведаю, ці выказываецца цяперака гэта думка зусім адчынена. Але я пэўная, што гэты погляд на трэд-юніонізм да гэтага часу жыве і перашкаджае згоднай працы двух рухаў—каапэратыўнага і прафэсіянальнага. А гэтая згода цяперака гэтак патрэбна для іх пасьпехаў!“

У сваю чаргу і прадстаўнікі прафэсіянальнага руху адплачвалі каапэрацыі тэй жа манэтай, ставячыся да яе ці з варожым скэптыцызмам ці са сьцюдзёнай неўважлівасьцю як да справы, выкліка-

ючай ілюзіі сацыяльнага міру і адрываючай увагу працоўнае клясы ўбок вузка-практычных задач.

Нарэшці, у 1912 годзе, на кангрэсе ў Портсмуце вядомы каапэратыўны дзеяч В. Максуэль высунуў на чаргу пытаньне аб спыненьні гэтае ўзаемнае адчуждзёнасьці. „Каапэратары, як у Англіі, гэтак і ў другіх старонках,— заявіў ён, — павінны былі-б гарманічна аб'еднацца з іншымі сіламі, працуючымі на карысьць эмансіпацыі працы".

Пытаньне гэта пачалі абгаварываць як у друку, гэтак і на з'ездах, але, ў рэшце рэшт, на кангрэсе ў Лейстэрэ, ў 1915 годзе, аграмаднай большасьцю была прынята рэзалюцыя, рэкамэндаваўшая „не рабіць ніякіх далейшых крокаў ў пытаньню аб супольнай працы з другімі сіламі".

З гэтага відаць, што **трэба яшчэ многа далажыць высілкаў дзеля таго, каб перамагчы гістарычна злажыўшыйся антаганізм паміж каапэ-**

**рацыяй і трэд-юніанізмам.**

Яшчэ больш зімныя адносіны заўважаюцца паміж местовай і вясковай дэмакратыямі, г.-ё. паміж сялянскай каапэрацыяй і працоўным прафэсіянальным рухам, якія часта-густа пераходзяць у адчыненую варожасьць і затрымліваюць гэткім чынам справу сацыяльнага прагрэсу.

Самым лепшым спосабам для зьнішчэньня гэтае адчуждзёнасьці і антаганізму з'яўляецца высьвятленьне таго тэорэтычнага непаразуменьня, на грунце якога ўзраслі гэты адносіны,

**высьвятленьня блізкага ўнутранага сваяцтва паказаных дзьвюх формаў сацыяльнага руху.**

У гэтым і ёсьць галоўнае значаньне і сэнс разьвіваемай мною вышэй сыстэмы каапэратызму, у аснове якой паложана новае вызначаньне каапэратыву, дазваляючае падвадзіць пад яго таксама і прафэсіянальныя хаўрусы.

Які-ж практычны вывад можа

быць зроблены з гэтага?

Гэты вывад ў тым, што праўныя варункі істнаваньня тых і другіх арганізацыяў павінны апрэдзяляцца адным агульным законадаўствам, што на агульнакаапэратыўных кангрэсах павінна быць адведзена мейсца таксама і працоўным прафэсіянальным хаўрусам і, нарэшці, павінен быць зроблены новы орган, які аб'еднаў бы рожныя часткі руху і кіраваў бы агульнымі выступленьнямі.

Нешта падобнае ужо існуе ў Італіі, дзе большасьць каапэратываў, прафэсіянальных хаўрусаў і таварыстваў узаемадапамогі ўваходзяць у склад аднае агульнае фэдэрацыі, з камерай працы на чале, заложанай у 1901 годзе, і прыймаюць удзел на агульных кангрэсох.

## VII. Каапэратызм і соцыялізм.

Разгледзім адносіны каапэратыўнай сыстэмы да соцыялізму. Згодна думцы некаторых аўтараў, каапэрацыя дужа далёка і нават варожа да соцыялізму.

„Каапэратары,—кажа, напрыклад, А. Мэтэн, — гэта добрыя капіталісты, занепакоеныя выключна паменшаньнем выдаткаў на свой пражытак і атрыманьнем дывідэнту... Гэткім чынам, каапэрацыя, заложаная соцыялістамі, адвярнулася ад соцыялізму.. Праўда, ёсьць каапэратары, называючыя сябе соцыялістамі; але бязмерна больш гэткіх, што зьяўляюцца ворагамі соцыялізму“*).

---

*) „Соцыялізм у Англіі“. 1898 г. 80-82 б.

„Каапэрацыя будуецца на прыватнай уласьнасьці, якую соцыялізм адкідае,—дадае са свайго боку вядомы дзеяч францускае каапэрацыі, гр. Ростань, — дзеля гэтага яна зьяўляецца поўнай працілежнасьцю соцыялізму“...

Наадварот, іншыя хочуць бачыць ужо ў сучасных каапэратыўных арганізацыях, як яны ёсьць, ажыцьцяўленьня соцыялістычных пачаткаў, правобраз соцыялістычнага грамадзянства ў мініатуры*). Гэтак, напрыклад, Ганс Мюллер,—быўшы сэкратар міжнарадовага каапэратыўнага хаўрусу, — падкрэсьлівае, што „ужо цяперака, нават нашым фізычным вокам, можамо мы бачыць соцыялістычны лад, які расьце на грунце спажывецкіх таварыстваў у межах капіталістычнага грамадзянства“**). У тым духу выказваюцца Ш. Жыд Г. Давіс і другіе.

*) „Мініатура“, „мініатурны“ знача — дробны, малы.

**) „Тэорыя клясавага змаганьня“ 1909 г., 28 стар.

З нашага пункту гледжаньня як тая, гэтак і другая думка хварэе аднабокасьцю і таму ня можа быць вызнана правідловай.

Каапэрацыя ня ёсьць адна з формаў капіталістычнае эволюцыі, як думалі яшчэ дужа нядаўна некаторыя марксісты, бо яна ёсьць рух, у істоце сваёй, анцікапіталістычны. Але яе ня трэба раўнаць з соцыялізмам, як гэта робюць некаторыя захопленыя каапэратары.

## Што такое соцыялізм?

Соцыялізм ёсьць гэткі грамадзкі лад, у якім сродкі і арудзія вырабу належаць не асобным прыватным асобам, а ўсяму грамадзянству, і ў якім дзякуючы гэтаму праца збаўлена ад эксплёатацыі капіталу, а непрацоўныя крыніцы зыску ўхілены.

Гэткага грамадзкага ладу ў жыцьцю яшчэ не было і німа, і ён вымалёўваецца нам як ідэал, бліжэйшае ці далейшае будучыні.

Гэты ідэал быў акрэсьлены спачатку асобнымі перадавымі розу-

мамі, але ў сучасны момант ён зьяўляецца ўжо штандарам, за якім стаяць шырокія масы інтэлігэнцыі, працоўнае клясы і сялянства. Практычна гэты рух, у якім прыймаюць удзел вышэйпамянёныя грамадзкія элемэнты і які дамагаецца зьдзейсьненьня социялістычнага ідэалу, знайходзе сябе выяўленьне ў форме палітычнае і эканамічнае працы.

**Органамі палітычнае працы зьяўляюцца партыі, а эканамічнае— каапэратывы.**

**Ні той, ні другі рух ня ёсьць социялізм**

у поўным значаньні гэтага слова, а толькі падбліжэньне ці падрыхтоўка да социялізму, але кожны з іх робіць гэта па свойму, асобным чынам, і таму яны ўзаемна дапамагаюць і дапаўняюць друг-друга ў дамаганьні аднае агульнае мэты.

Возьмем, для прыкладу, партыйныя арганізацыі. Калі разгледзіць бліжэй праграмы социялістычных партыяў і іх працу ў парлямэнтах і органах мейсцовага самаўра-

даваньня, дык акажацца, што яны зусім ня маюць у сябе праўдзівага социялізму і разлічаны на працу ў межах істнуючага буржуазна-капіталістычнага ладу. Іх патрэбаваньня ў вобласьці агульнай народна-гаспадарчай палітыкі, працоўнага і аграрнага пытаньняў, народнае асьветы і гэтак далей (праграма мінімум)—далёкія ад соцыяльнага ладу.

Практычныя мерапрыемствы, прапануемыя гэтымі партыямі, маюць сваёй мэтай абараняць інтэрасы працы ад эксплёатацыі з боку капіталу, дапамагаць палепшаньню эканамічнага і працоўнага становішча працоўных мас, павышаць іх сацыяльную сьвядомасьць і самадзейнасьць і гэткім чынам падрыхтовываць набліжэньне гэткае ступені грамадзянскага разьвіцьця, калі можна ўжо будзе пачаць правядзеньне праграмы-максімум, г.ё. дэкратаваць меры, маючыя безпасярэдна социялістычны характар.

Але тымі-ж рысамі характары-

зуецца праца тых шматвобразных арганізацыяў, якія ўвайходзюць у склад каапэратыўнага руху. Іх безпасярэдняй бліжэйшай задачай зьяўляецца абараняць інтэрасы працы ад эксплёатацыі капіталу і дапамагаць матэр'яльнаму і духоўнаму дабрабыту сваіх членаў. Робючы гэта, яны разам з тым навучаюць працоўныя масы арганізоўваць свае сілы, знаёміцца бліжэй з кіраўніцтвам, эканамічным жыцьцём, накапліваць грамадзкія фонды, г. ё. падрыхтовываюць набліжэньне новага ґрамадзкага ладу — соцыялізму.

З вядомага пункту гледжаньня, вынікі каапэратыўнае працы дужа скромныя і нязначныя, а соцыялістычны элемэнт у іх — ледзьве бачны. Але тое-ж самае можна сказаць—і запраўды гаворыцца гэтак завомымі анарха-сіндыкалістамі — адносна працы палітычнае. Колькі дзесяцігодзьдзяў змагаліся, напрыклад, нямецкія соцыял-дэмакраты, стварыўшыя на дзіва моцную пар-

тыйную арганізацыю, за дэмакратызацыю дзяржаўнага ладу ў сваім краю, але, нават зваліўшы Вільгэльма і аб'весьціўшы Нямеччыну Рэспублікай яны яшчэ не змаглі дабіцца сваіх канчатковых мэтаў. Праца іх не асталася зусім бяз вынікаў, аднак да ўвядзеньня социялізму ім яшчэ далёка.

Ня будземо дзеля гэтага, з-за таго, што каапэратывы дужа паціху накапліваюць грамадзкія фонды і творуць новыя эканамічныя формы на места капіталістычных, адкідаць іх важнае значэньне для падрыхтоўкі будучага лепшага ладу,—бо павольнасьць здабываньня ёсьць адзнака ўсіх вялікіх грамадзкіх рухаў, узьнікаўшых знізу, з самых нэтраў дэмакратыі...

„Сындыкат,—кажа Поль Луі, — гэта хаўрус працоўных аднаго рамесьніцтва ці аднэй галіны прамысловасьці, які дамагаецца спачатку падняць роўню пролетарскаскага жыцьця ў рамках сучаснага рэжыму, а затым разбіць гэты рам-

кі, падрыхтоўваючы матэр'яльныя і маральныя элемэнты новае эканамічнае арганізацыі“*).

Але тое, што Поль Луі, кажа аб прафэсыянальных працоўных хаўрусах, адносіцца і да ўсіх іншых арганізацыяў, якія ўваходзюць у склад каапэратыўнага руху, —

**усе яны дамагаюцца спачатку палепшыць становішча сваіх членаў у рамках істнуючага рэжыму, а затым — дамагаюцца разбіць гэты рамкі,**

арганізуючы новы грамадзка-эканамічны лад...

Гэткім чынам, мы прыходзімо да думкі, што каапэратывы на-раўне з соцыялістычнымі партыямі, маюць у істоце ня толькі праграму-мінімум, але і праграму-максімум: першая ёсьць тое, што складае іх безпасярэднюю, штодзённую працу; другая-ж ёсьць той аддалёны ідэал, які асьвятляе каапэрацыю і да якога, па меры магчымасьці,

---

*) „Гісторыя сындыкалізму ўва Францыі“. 1908 г., 7 стар.

каапэратывы дамагаюцца дайсьці бліжэй.

Абодвы гэты рухі—палітычны і кааапэратыўны—сьціроўваюцца да аднае і тэй-жа агульнае мэты, але робюць яны гэта кожын па-свойму, сваім уласным спосабам. У гэтым толькі і ёсьць іх рожніца.

Гэткім чынам

**быць праўдзівым каапэратарам знача быць соцыялістам**

у тэй-жа меры, як і будучы членам соцыялістычнае партыі, бо і каапэратар і соцыялісты скіроўваюць сваю працу да новага грамадзкага ладу і падрыхтовываюць яго набліжэньне. Толькі першыя робюць гэта мэтодам барадзьбы эканамічнае, другія-ж — мэтодам барадзьбы палітычнае.

# Зьмест.

